# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 5 (192)
май 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"



## У НУМАРЫ:

### Mon General: Як Касцюшка ўсіх пamiрыў

На помнік нацыянальнаму герою Беларусі і ЗША скінулася амаль 700 чалавек, а сабраць 12 тысяч долараў удалося за два месяцы.

Працяг на старонцы 2.

### Падарожжа на Монтэ Касіна

Вядомая даследчыца гісторыі эміграцыі, намесніца дырэктара БДАМЛіМ Наталля Гардзіенка наведала адно з найбольшых месцаў кампактнага пахавання беларусаў за мяжой.

Працяг на старонцы 5.

### "Беларуская вясна ў Таронта – 2018"

Дзіцячы фестываль "Беларуская вясна – 2018" адбыўся 5 траўня ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры ў Таронта.

Працяг на старонцы 6.

### "Апантаны Бацькаўшчынай": новая кніга акадэміка Радзіма Гарэцкага

"Апантаны Бацькаўшчынай: Жыццёвы меланж-2" – так называецца новая кніга Радзіма Гарэцкага, акадэміка НАН Беларусі, слыннага беларускага геолага, грамадскага дзеяча, сябра Рады "ЗБС "Бацькаўшчына".

Працяг на старонцы 8.




# ЯК БЕЛАРУСКІЯ ЭМІГРАНТЫ "СПАДЧЫНУ" ЎКЛАДАЛІ

У серыі "Бібліятэка "Бацькаўшчыны" (падсерыя "Спадчына: агледзіны") выйшла новая кніга, прысвечаная гісторыі выдання знакамітай Купалавай "Спадчыны".

Пяцісотстаронкавы зборнік выбраных вершаў паэта выйшаў у 1955 годзе ў выдавецтве часопіса мюнхенскага беларускага асяродка "Бацькаўшчына" пад грыфам нью-ёркскага Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ). Гэты амбітны выдавецкі праект стаў значнай з'явай у жыцці беларускай эміграцыі. Выданне было падрыхтаванае на вельмі высокім тэксталагічным узроўні і мела дыхтоўнае паліграфічнае выкананне. Біяграфічная прадмова на англійскай, нямецкай, французскай і іспанскай мовах спрыяла рэпрэзентацыі беларускай культуры на Захадзе, а наяўнасць у зборніку шэрагу забароненых у БССР тэкстаў скіроўвала тэндэнцыі афіцыйнага купалазнаўства да іх "рэабілітацыі".

Праца над "Спадчынай" вялася тры гады. Гэта быў не самы просты перыяд для бальшыні беларускіх паваенных эмігрантаў. Большасць з іх яшчэ не замацаваліся стала на чужыне і не пачалі дастаткова зарабляць, каб ахвяраваць час і грошы на падобныя праекты. І як любая закрытая супольнасць, беларускі эмігранцкі асяродак меў унутраныя канфлікты і непаразуменні.

Ідэя данесці праўдзівыя, не скажоныя савецкай цэнзурай Купалавы словы да кожнага беларускага дому за мяжой належала заснавальніку БІНіМ Вітаўту Тумашу і найбуйнейшаму купалазнаўцу на эміграцыі, рэдактару "Бацькаўшчыны" Станіславу Станкевічу. І хаця адлегласць паміж кантынентамі таксама не спрыяла рэалізацыі задумы, дзвюхтысячны наклад зборніка з каласамі і валошкамі на вокладцы ўсё ж убачыў свет.

У аснову 35-га выпуску "Бібліятэкі "Бацькаўшчыны" – "Як укладалі "Спадчыну" – легла перададзенае БІНіМам у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ліставанне паміж Вітаўтам Тумашам і Станіславам Станкевічам падчас працы па падрыхтоўцы кнігі. Яшчэ ў часе сваёй перапіскі ўкладальнікі кнігі казалі пра тое, што іх ліставанне па аб'ёме не саступае "Спадчыне" Купалы. Кніга "Як укладалі "Спадчыну" – доказ гэтаму, а яшчэ жывое і захапляльнае сведчанне беларускага інтэлектуальнага жыцця тагачаснай эміграцыі, якое ахоплівае вельмі шырокі спектр тэмаў: абмеркаванне культурнага жыцця на Радзіме, эмігранцкі штодзённы побыт, фінансавыя поспехі і цяжкасці, канкурэнцыю і супрацу паміж суполкамі...

Выданне традыцыйна ўтрымлівае падрабязныя падрадковыя каментары і іменны паказнік.

Інфармацыйны цэнтр
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

in memoriam

# ПАМЁР АРСЕНЬ ЛІС

Памёр літаратуразнаўца, фалькларыст, гісторык Арсень Ліс – сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына" і адзін з заснавальнікаў Згуртавання. Яму было 84 гады.



Арсень Ліс нарадзіўся 4 лютага 1934 года ў Вётхаве (сёння Смаргонскі раён). Працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Даследаваў традыцыйную культуру беларусаў, літаратуру, гісторыю і перыядычны друк Заходняй Беларусі, жыццё і дзейнасць дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, гісторыю культуры. Аўтар аналітычных партрэтаў прадстаўнікоў беларускай навуковай, мастацкай і грамадска-палітычнай інтэлігенцыі (манаграфіі "Браніслаў Тарашкевіч", "Мікола Шчакаціхін: хараство непазнанай зямлі", "Пётра Сергіевіч", "Вечны вандроўнік: нарыс пра мастака Язэпа Драздовіча", "Пякучай маланкі след: эцюды да партрэта мастака Горыда"), а таксама чатырох манаграфій па беларускім каляндарна-абрадавым фальклоры ("Купальскія песні", "Валачобныя песні", "Жніўныя песні", "Каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў: сістэма жанраў. Эстэтычны аспект"). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР за падрыхтоўку і выданне акадэмічнай серыі "Беларуская народная творчасць", лаўрэат літаратурнай прэміі імя Максіма Гарэцкага за кнігу "Цяжкая дарога свабоды". Арсень Ліс быў актыўным аўтарам беларускіх энцыклапедый.

У 1970-я гады ўваходзіў у "Акадэмічны асяродак" – нефармальную, пераследаваную савецкімі спецслужбамі суполку навукоўцаў – беларускіх патрыётаў.

Пахаваны спадар Арсень у вёсцы Залессе Смаргонскага раёна.

ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае спачуванні родным спадара Арсеня, а таксама ўсім, хто яго ведаў. Мы смуткуем разам з вамі.

**Інфармацыйны цэнтр МГА „ЗБС „Бацькаўшчына"**

навіны

# MON GENERAL: ЯК КАСЦЮШКА ЎСІХ ПАМІРЫЎ

На помнік нацыянальнаму герою Беларусі і ЗША скінулася амаль 700 чалавек, а сабраць 12 тысяч долараў удалося за два месяцы.

Тадэвуш Касцюшка вярнуўся на радзіму ў… бронзе. Помнік славутаму беларусу ўсталявалі на яго малой радзіме, ва ўрочышчы Мерачоўшчына ў Косаве, 12 траўня. Цяпер генерал пазірае на тутэйшыя абшары, трымаючы ў руцэ капялюш, праваруч ад яго адрэстаўраваная сядзіба-музей, леваруч – знакаміты палац Пуслоўскіх.



"Мы з вамі паставілі помнік, віншую вас са святам. У апошнія гады вырасла цікавасць нашых людзей да гісторыі. Сёння адбываецца гістарычная падзея – усталяванне першага помніка Касцюшку. Грошы ўдалося сабраць за рэкордна кароткі тэрмін. Да мяне нават прыйшоў чалавек у спецвопратцы з назвай будаўнічага трэста і з флікерам, сказаў, што не ўмее ахвяраваць праз інтэрнэт, і прынёс 5 рублёў. І гэтыя 5 рублёў дорага каштуюць. Помнік гэта сапраўды народны, бо яго паставілі мы – удзячныя суайчыннікі Касцюшкі", – гаворыць на адкрыцці ініцыятар усталявання помніка, журналіст Глеб Лабадзенка.

Неабходныя 12 тысяч долараў на помнік сабралі праз краўдфандынг усяго за 2 месяцы. Цяпер імёны 690 ахвярадаўцаў будуць захоўвацца ў мясцовым музеі. На адкрыццё з розных гарадоў Беларусі прыехала паўтысячы чалавек. Бел-чырвона-белыя сцягі вакол бронзавага Касцюшкі суседнічаюць з чырвона-зялёнымі: генерал аб'яднаў.

"Асоба Касцюшкі – гэта прыклад адданасці сваёй радзіме і святой любові да роднай зямлі", – кажа на адкрыцці старшыня Івацэвіцкага райвыканкама Аляксандр Грыцук.

Чыноўнікі ў афіцыйных касцюмах перад сядзібай Касцюшкі як ніколі арганічна глядзяцца разам з прадстаўнікамі грамадскасці і апазіцыйнымі палітыкамі. Рознасць сімволікі нікога абсалютна не засмучае. Тут вам і прадстаўнікі Міністэрства культуры і мясцовых органаў улады, і Рыгор Кастусёў з Аляксеем Януковічам і Паўлам Севярынцам. Апроч сцягоў над іх галовамі гербы Гродна і Брэста.

Аўтар помніка скульптар Генадзь Лойка адзначае што цяпер "неабходна ўжываць беларускую мову".

"А хто не дае? Як хочаш, так і гаворыш", – адказвае ў натоўпе мясцовая жыхарка. Мясцовыя на адкрыцці помніка трымаюцца асобна і больш абмяркоўваюць сваё. Для іх натоўп у 500 чалавек – рэдкасць. Хоць турысты тут бываюць часта.

"Адкрылі – і добра. Вунь яшчэ яму помнік паставіць трэба", – жартуе мясцовы пенсіянер, паказваючы на свайго сябра.

Мясцовыя з цікаўнасцю назіраюць за рэканструктарамі ў вайсковых строях, слухаюць песні часоў Касцюшкі, якія гучаць са сцэны. У гэты час "панаехаўшыя" з Мінска фатаграфуюцца з бронзавым генералам і пускаюць дроны, якія ніхто не ўганяе.

Тадэвуш Банавентура Касцюшка нарадзіўся ў Мерачоўшчыне ў 1746 годзе. Ён паспеў паўдзельнічаць у вайне ЗША за незалежнасць, узначаліць нацыянальна-вызваленчае паўстанне на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, заслужыць тытул ганаровага грамадзяніна Францыі, нацыянальнага героя ЗША і Польшчы. Помнікі гэтаму ўраджэнцу Беларусі стаяць у ЗША, Швейцарыі, Польшчы.

Да апошняга часу, апроч некалькіх бюстаў, у Беларусі не было помніка Тадэвушу Касцюшку. Цяпер зрабіць сэлфі з бронзавым генералам, наведаць музей-сядзібу і паглядзець на радзіму Касцюшкі можна ў Косаве. Для гэтага трэба ад'ехаць ад Мінска амаль на 250 кіламетраў. Поруч з сядзібай можна таксама паглядзець палац Пуслоўскіх.

**Васіль Драбяза**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# У МАЛАДЗЕЧНЕ ПРАЙШОЎ КІРМАШ ПРАЕКТАЎ ДЛЯ МІНШЧЫНЫ

30 траўня ў маладзечанскім Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" прайшоў першы раўнд прэзентацый Кірмашу праектаў для Міншчыны.

Першы выступоўца – Ігар Ярковіч з гарадскога пасёлка Ратамка. Апантаны велавандроўкамі Ігар марыць пра **"Сядзібу ровара альбо сядзібу Ра"** – так называецца ягоны праект. Ад цесця яму дастаўся дом у Ратамцы. Пяць пакояў для гасцей, мансарда, лазня, месца для намётаў, сто квадратных метраў у піўніцы, якія гаспадар прыстасаваў пад канферэнц-зал.

– Мы робім пляцоўку для веларамонту і правядзення некамерцыйных мерапрыемстваў, – кажа Ігар.

Ён натхніўся роварным маршрутам Eurovelo з Дубліна да Масквы, які ляжыць праз Ратамку. Цяпер Ігар Ярковіч стварае месца, дзе любы раварыст мог бы знайсці начлег, адпачынак і веларамонт.

– Я сам раблю капусту ў бочках, сок і буду частаваць гэтым людзей, – смачна расказвае Ігар.

Ігар не трэба нічога, акрамя юрыдычнай і інфармацыйнай падтрымкі. Нават з будучым вонкавым аздабленнем сядзібы і камерамі відэаназірання ён можа даць рады сваімі сіламі. Дарэчы, Ігар ужо знайшоў падтрымку ў "Мінскім роварным таварыстве".

– Каб праект быў устойлівы, важна, каб ён фінасаваўся. Навошта прымаць раварыстаў "за так", калі будзе якасная паслуга? Я зведу вас з Клубам сацыяльнага прадпрымальніцтва, бо тое, пра вы кажаце, – гэта бізнес, хоць і з выразным сацыяльным эфектам, – пракаментавала экспертка, кансультантка Міжнароднай арганізацыі "Раст" Юнэля Сальнікава.

Наступны праект вельмі ўразіў публіку. Валяніца Сідоркіна і Ганна Холад прадставілі ідэю **"Molo.map – стварэнне крэатыўнай мапы"**. Калі яе рэалізуюць, то Маладзечна чакае нежартоўная культурная рэвалюцыя. У камандзе праекта – з дзясятак маладых і адукаваных, якія скончылі ўніверсітэты ў Мінску і Вільні і вярнуліся жыць на малую радзіму. Стэндапы, паблік "Барахолка Маладзечна", "Признания Молодечно", адукацыйны цэнтр "Адкрытая прастора", іншыя івэнты – усе гэта маладыя людзі ўжо паспяхова прайшлі і прыдумалі штуку, якая звязала б падзеі, месцы і жыхароў у адно. На будучай "Molo.map" пазначаць усе месцы, любімыя маладзечанцамі. Каштоўна, што аўтары праекта спачатку збіраюцца правесці апытанне мясцовых жыхароў, каб высветліць, якія месцы варта ўключыць у мапу (спытаюцца нават пра ўлюбёныя месцы для сэлфі), а таксама сабраць інфармацыю пра тое, чаго не хапае ў Маладзечне, то бок зрабіць зрэз патрэбаў.




– Мы хацелі б, каб жыхары па-іншаму паглядзелі на горад і сталі ўдзельнікамі гарадскіх змен, – кажа Валянціна Сідоркіна.

Пасля збору прапанаваў ад маладзечанцаў аўтары праекта пагавораць з установамі і арганізацыямі: іх прапановы таксама маюць быць увекавечанымі ў мапе. Калі сваіх крэатыўных ідэй там не знойдзецца, ім прапануюць рэалізаваць штосьці з патрэбаў гараджан (напрыклад, кавярню, куды можна прыходзіць з катамі). Апошнія этапы рэалізацыі праекта: стварэнне анлайн- і афлайн-мапы ды іх прэзентацыя. На ўсё патрэбны бюджэт, каманда з неабходнымі кампетэнцыямі ўжо ёсць. Юнэля Сальнікава параіла ўсё ж для пачатку зрабіць пілотны выпуск мапы, каб шукаць рэсурсы на яе было прасцей, а яшчэ падумаць, як можна было б інтэграваць у мапу афішу: так будзе больш нагодаў зазіраць у "Molo.map".

Аўтары краязнаўчага інтэрнэт-праекта **"Маладзечанскі край у прасторы і часе"** таксама будуць рабіць карты. Настаўнік геаграфіі Юрый Мяцельскі разам з 10-класніцай Палінай (яны прыехалі з вёскі Палачаны Маладзечанскага раёна) ведаюць усё самае цікавае ў ваколіцах горада. Іх ідэя прымеркаваная да Года малой радзімы і мае на мэце падтрымаць "вобраз Маладзечаншчыны праз экскурсіі". Праект патрэбны жыхарам раёна і выхадцам з яго, у тым ліку людзям з абмежаванымі магчымасцямі. Энтузіясты-школьнікі пад кіраўніцтвам спадара Юрыя стварылі маршруты для вандровак, сцэнары экскурсій і нават інтэлектуальную гульню – усё пра родны раён.

– Ну давайце з вамі пагуляем. Дзе знаходзіцца "Максімава крынічка"? – Паліна дэманструе фрагмент гульні.

– Ракуцёўшчына! У мяне там бабуля жыла. Расказвала, што Максіма Багдановіч быў ... бабнікам, – адказаў нехта з залы.

У 1911 годзе класік адпачываў у вёсцы Ракуцёўшчына і, відаць, пакінуў па сабе жывую памяць. Як там было насамрэч, цяпер дакладна сцвярджаць цяжка, аднак калі там да сёння ходзяць легенды, праект настаўніка і школьнікаў з Палачанаў больш чым актуальны. Аўтары ідэі хацелі б зрабіць яшчэ маршруты для рэлігійнага і ваеннага турызму раёна, вандроўку па аграсядзібах Маладзечаншчыны, выдаць віртуальны даведнік, стварыць кругавыя панарамы, аўдыёгіды, буклеты да маршрутаў. Яны шукаюць аднадумцаў, а яшчэ відэакамеру, прынтар, сканер, праектар.

– Я магу перадаць вам старыя польскія, нямецкія карты Маладзечанскага раёна, – кажа ўдзельнік Кірмашу праектаў і знаны архітэктар Зміцер Мурашка.

– Вам варта прапанаваць маршруты дзяржаўным турфірмам. Да іх паслугаў звяртаюцца прафсаюзы, Гэта пашырыць аўдыторыю праекта, – раіць экспертка, музыка гурта "Стары Ольса" Марыя Шарый.

Юнэля Сальнікава падвяла рысу: "Змест ужо ёсць, яго варта спакаваць у прыгожую вокладку, запрасіўшы дызайнера і фатографа".

Наступная выступоўца – мінчанка Вольга Сямашка з праектам **"На "панскіх могілках" Плябані"**. Юрыстку добра ведаюць, яна шмат гадоў займаецца прыборкай і пашпартызацыяй некропаляў у розных кутках Беларусі. Колькі гадоў таму Вольга арганізавала валанцёрскі летнік на могілках вёскі Плябань Маладзечанскага раёна, пасябравала з тамтэйшым Цэнтрам традыцыйнай культуры і побыту. Касцёл вёскі Плябань у 1863–1864 гадах быў неафіцыйным "штабам" інсургентаў. Двойчы на год у Плябані адбываюцца мемарыяльныя мерапрыемствы – Стаброўскія Дзяды і дзень памяці паўстанцаў. Валанцёры прыдумалі гульню "Канфедэратка": віктарына, дзе можна выйграць шапку паўстанца (галаўны ўбор рэканструявала майстар Юлія Ліцвінава, якая таксама была ў зале). У Плябані пашпартызацыя могілак перарасла ў шэраг сістэматычных культурна-асветніцкіх івэнтаў. У 2013 годзе каманда праекта прадставіла каштоўную кнігу "На "панскіх" могілках плябані". Наўрад ці выданне мае беларускія аналагі: плябанскія могілкі тут апісаныя ўздоўж і ўпоперак. Мапа некропаля, каталог 600 надмагілляў, фота, пералічэнне і тлумачэнне могілкавых сімвалаў, прыклады эпітафій – якія яшчэ могілкі апісаныя аж так падрабязна. Тады выйшла 300 асобнікаў, цяпер Вольга шукае сродкі на другі наклад.

Праект **"Вясковая школка"** прадстаўлялі Зміцер Мурашка і Тамара Каляда. Мястэчка Дубіна Баярская мае статус аграгарадка, аднак за апошнія пяць гадоў там закрылі школу, дзіцячы садок і бібліятэку. Школьнікаў возяць у суседнюю вёску альбо ў Валожын. Каб мясцовыя жыхары і асабліва моладзь не шукалі культурны адпачынак далёка, аўтары праекта прапануюць стварыць асяродак навучання традыцыйным рамёствам. Балазе, сур'ёзная база ўжо ёсць. Тамара Каляда апякуецца музеем "Хата настаўніка". У 1940-я ў вёсцы ўжо быў энтузіяст: школьны настаўнік Васіль Рагель, які акрамя арыфметыкі і чыстапісання вучыў дзяцей рамёствам. Ягоную справу хочуць годна працягваць сёння.

– Мы зрабілі там шэраг экспедыцый і выявілі некалькі гаспадынь, якія валодаюць традыцыйнымі рамёствамі, – расказаў Зміцер Мурашка.

У праекта вялікія планы, і рэсурсаў тут трэба нямала: сродкі на правядзенне гурткоў, ганарары майстрам. А яшчэ ў вёсцы хочуць аднавіць традыцыю мясцовага фэсту, а гэта зноў адны выдаткі.

– Класная ідэя! Яе можна падтрымаць, развіваючы мясцовае прадпрымальніцтва, – кажа Юнэля Сальнікава і зноў раіць актывістам глядзець на свой праект як на бізнес, хай сабе з моцным культурніцкім складнікам.

Кіраўніца этнаклуба "Кола", які існуе ў Маладзечне 2 гады, Вольга Трубач завяршала першую частку прэзентацый ідэй для Мінскай вобласці праектам **"Жнівеньскія працоўкі на Вілейшчыне"**.

– Пераводзім традыцыйную культуру ў фармат моладзевай тусоўкі, – абазначыла пазіцыі Вольга.

Яе ідэя: чатыры дні танцавальнага летніка на сядзібе ў вёсцы Любкі для тых, хто танцуе альбо хоча навучыцца танцаваць факстрот, польку, вальс і танга. Вольга шукае валанцёраў і сродкі на ганарары і транспартныя выдаткі. Танцы ў фармаце social dance ужо не раз былі на Кірмашах праектаў у межах дзейнасці кампаніі "Будзьма беларусамі!".

**Хрысціна Марчук**

дыяспара для Беларусі

# КАНАДЫЙСКІ ФОНД ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЮ Ў БЕЛАРУСІ

Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Bielarus (CRFCVB, КФДАЧБ) зьяўляецца адной зь першых замежных арганізацыяў дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі.

CRFCVB быў створаны ў 1989 г., толькі на паўгады пазьней за брытанскую фундацыю айца Аляксандра Надсана – "The Byelorussian Radiation Relief Appeal" (у скарачэньні BRRA, у беларускім перакладзе – "Беларускі заклік да дапамогі з прычыны радыяцыі" (БЗДР)).

Канадыйскі фонд КФДАЧБ пачаў сваю дзейнасьць зь перасылкі ў Беларусь аднаразовых шпрыцаў і іншай мэдычнай дапамогі шпіталям яшчэ ў 1990 г. Дзіцячая праграма і некалькі іншых, пра якія мы больш падрабязна раскажам ніжэй, была


Івонка Сурвілла

распачатая ўвесну 1991 г. Першы год КФДАЧБ працаваў на Менск і Менскую вобласьць, а пасьля, большай часткай, на Магілёў і Магілёўскую вобласьць.

У галіне праграмы па аздараўленьні дзяцей мы супрацоўнічалі зь беларускім дабрачынным фондам "Дзецям Чарнобылю", які быў заснаваны доктарам, прафэсарам Генадзем Грушавым (1950–2014). Грошы на заснаваньне гэтага дабрачыннага фонду ахвяраваў пісьменьнік і прафэсар Алесь Адамовіч, які зарабіў іх, чытаючы лекцыі ў Японіі. Гэты фонд дапамагаў нам падбіраць беларускіх дзетак з забруджаных радыяцыяй раёнаў Беларусі, а менавіта, з Магілёва і Магілёўскай вобласьці – перадусім з Чавусаў і прылеглых вёсак. Валянтэры з фонду "Дзецям Чарнобылю" таксама фізычна дапамагалі пры перавозе дзяцей. Грошы на авіяпералёт першай групы дзяцей, якія прыбылі ў Канаду ўлетку 1991 г., даў фонд Грушавога (з ахвяраваньняў, якія ён спачатку атрымоўваў ад беларускіх прадпрыемстваў). Але пачынаючы з 1992 г., КФДАЧБ самастойна плаціў за ўсё: транспарт і візы для дзяцей і перакладчыкаў, пасылкі зь лекамі, ежай і вітамінамі, перавозку інвалідных вазочкаў, мэдычнага і тэхнічнага (кампутары) абсталяваньня. Калі перавозілі мэдычнае і стаматалягічнае абсталяваньне, кампутары для школ і адзеньне для жыхароў пацярпелых раёнаў, адзін-


Зіна Гімпелевіч

два валянтэры з Канады наглядалі за перавозкай і развозілі рэчы па адрасах. У наступны раз іншыя валянтэры правяралі, каб ўсё было на месцы і працавала. Наколькі мы ведаем, такога кантролю не было ні ў якой іншай замежнай фундацыі.

Першымі і афіцыйнымі арганізатарамі Фонду былі тры жанчыны беларускага паходжаньня: Івонка Сурвілла – прэзыдэнт, Зіна Гімпелевіч – віцэ-прэзыдэнт і Паўліна Пашкевіч-Сміт (народжаная ў Канадзе ў беларускай сям'і) – сакратар...

**Івонка Сурвілла, Зіна Гімпелевіч**

**У допісе захаваны аўтарскі правапіс**

**Цалкам артыкул чытайце ў рубрыцы "Дыяспара для Беларусі" на сайце zbsb.org**

гутарка

# ЯК ГІСТОРЫК АЛЕНА МАРКАВА ПЕРААСЭНСОЎВАЕ БЕЛАРУСІЗАЦЫЮ 90-х

Як выйграць трохгадовы грант на даследаванне найноўшай беларускай гісторыі ў Чэхіі? З якімі выклікамі сутыкаецца ў акадэмічным асяроддзі жанчына, якая прысвячае сваё жыццё навуцы? Як прасоўваць беларускія гістарычныя даследаванні па-ангельску? На гэтыя пытанні адказвае прафесарка Алена Маркава, супрацоўніца факультэта гуманітарных даследаванняў Карлавага ўніверсітэта ў Празе.

**– У доктарскай дысертацыі вы аналізавалі працэсы беларусізацыі ў 1924–1929 гадах. А цяпер рыхтуеце грунтоўнае даследаванне пра працэсы неабеларусізацыі перыяду нацыянальнай незалежнасці ў 1990–1995 гадах. Ці падобныя прычыны, чаму той і гэты перыяд скончыўся, і які з іх быў больш плённы для беларускай нацыі?**

– Абодва перыяды скончыліся раптоўна, па загадзе "зверху" і амаль у самым росквіце. Падчас беларусізацыі гэта была новая палітыка "вялікага пералому" Сталіна, які па сутнасці вырашыў спыніць падтрымку нацыянальных ініцыятываў і атачыў краіну ў таталітарнае рэчышча. Падчас новай хвалі беларусізацыі 1990-х канец таксама прыйшоў "зверху". Пасля рэферэндуму 1995 года і ўвядзення рускай мовы ў якасці другой дзяржаўнай таксама адразу былі прыпыненыя амаль усе нацыянальныя ініцыятывы – перавод навучання на бела-


VII Міжнародны Кангрэс дасьледчыкаў Беларусі. Кніга "Шлях да савецкай нацыі. Палітыка беларусізацыі 1924–1929" Алены Маркавай атрымала прэмію як найлепшая манаграфія ў галіне гісторыі за 2016 год

рускую мову дый іншыя. Аднак пасля міжваеннай беларусізацыі засталася вялікая сетка беларускамоўных школ на вёсцы. А цяпер у выніку паслядоўнай русіфікацыі нават беларускамоўны клас цяжка знайсці. Таму я ўвогуле не вельмі спадзяюся на так званую "мяккую беларусізацыю", якая ідзе нібыта сама па сабе, бо без падтрымкі дзяржавы цяжка зрабіць не касметычныя, а грунтоўныя змены ў стаўленні да нацыянальнай мовы.

**– Для паўнавартаснага правядзення даследавання пра беларусізацыю пачатку 1990-х вы, беларуска, атрымалі ад вельмі аўтарытэтнага Грантавага агенцтва навуковых распрацовак Чэшскай рэспублікі трохгадовы грант. Гэта ўнікальная магчымасць для гісторыка мець столькі часу для такога грунтоўнага даследавання. У якім кірунку вы будзеце працаваць з гэтай тэмай?**

– У фокусе праекта – моўная палітыка прасоўвання беларускай мовы ва ўсе сферы адукацыі, культуры і публічнай прасторы, а таксама беларуская культурная і палітычная эмансіпацыя, якая пачалася пасля распаду СССР. Гэтая моўная і культурная палітыка была галоўным чынам звязаная з законам "Аб мовах", прынятым на 14-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР 11-га склікання 1990 года, які, акрамя ўсяго іншага абвяшчаў беларускую мову адзінай дзяржаўнай мовай краіны. На жаль, працэсы беларусізацыі і нацыянальнай эмансіпацыі новай хвалі спыніліся пасля рэферэндуму 1995 года. Тады ж замест новых нацыянальных сімвалаў вярнуліся старыя, злёгку перайначаныя савецкія дзяржаўныя сімвалы, якія мы маем да гэтага часу. Можна сказаць, што гэта будзе пераасэнсаванне падзей 90-х...

**Ганна Соўсь, "Радыё Свабода"**

**Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.org**

падарожжа

# ПАДАРОЖЖА НА МОНТЭ КАСІНА

Бываюць падзеі, што рыхтуюцца адмыслова да юбілеяў, значных датаў, а бываюць супадзенні – твайго жыцця і гістарычных угодкаў.

Гэткаю выпадковаю стала сёлетняя паездка з калегамі на Монтэ Касіна за тыдзень да чарговай гадавіны тае крывавае бітвы, што скончылася 18 траўня 1944 г.

Да гарадка Кассіна (менавіта так, паводле мовазнаўцаў, мелася б правільна па-беларуску пісацца італьянская назва Cassino) ад Неаполя можна даехаць за дзве гадзіны на рэгіянальным цягніку. У горадзе і ваколіцах знаходзяцца тры мемарыяльныя могільнікі, звязаныя са знакамітай бітвай: брытанскі (каля 5 тысячаў пахаванняў), нямецкі (каля 20 тысячаў) і польскі (каля 1 тысячы). Пры гэтым да апошняга дабірацца найскладаней: трэба ўздымацца высока ўгару, амаль да самага бенедыктынскага абацтва, за якое так жорстка змагаліся ў 1944-м.

Ад чыгуначнага вакзала ў Касіна да дзейнага і сёння абацтва тройчы на дзень ходзіць мясцовы аўтобус, што за 1 еўра падыме вас на вышыню больш як 500 метраў. Калі не трапілі на аўтобус, можна даехаць на таксоўцы ў любы час, але ўжо за 20 еўра. Пераважная ж большасць наведнікаў і ў абацтва, і на польскі могільнік прыязджаюць адмысловымі экскурсійнымі аўтобусамі. Шмат іх мы спаткалі каля ўваходу ў каталіцкую святыню, значна меней, але былі тыя аўтобусы і на могілках.

Польскі вайсковы могільнік знаходзіцца на той самай гары, крыху ніжэй па схіле за абацтва (хвілінаў 10-15 пешкі). Ён быў запачаткаваны адразу пасля сканчэння бітвы, паводле загаду генерала Уладыслава Андэрса – камандзіра 2-га Польскага корпуса, што стаў асноўнай вайсковай сілаю ў змаганні за стратэгічную вышыню. Каля 1050 жаўнераў былі пахаваныя тут ужо да адкрыцця могільніка ў верасні 1945 г. Колькі асобаў дадалося пазней, у тым ліку і сам генерал Андэрс з жонкаю. Памерлы ў 1970 г. у Лондане, ён завяшчаў пахаваць сябе побач са сваімі жаўнерамі.

Пахаванні на могільніку месцяцца ў дзевяці вялікіх секцыях (па два шэрагі ў кожнай), якія размяшчаюцца на розных узроўнях – кожны наступны ўсё вышэй па схіле. Пераважная большасць надмагілляў мае традыцыйныя чатырохканцовыя крыжы, але ёсць секцыі і з шасціканцовымі праваслаўнымі, а таксама іўдзейскія пахаванні.

Нас, зразумела, цікавілі пахаваныя на могільніку жаўнеры-беларусы. Паводле сведчанняў эміграцыйных публікацыяў яшчэ ад пачатку 1950-х, тут знайшлі спачын больш за 250 нашых суайчыннікаў (паводле гісторыка Юрыя Грыбоўскага, менавіта беларусаў сярод іх каля 180). Нараджэнцаў беларускіх земляў тут можна знайсці ва ўсіх секцыях, але ў праваслаўнай іх пераважная большасць.

Мы ішлі ўздоўж шэрагаў пахаванняў, учытваючыся ў надпісы. На большасці надмагілляў пазначаны рэгіён (найчасцей павет), з якога паходзіў жаўнер. Спыняліся перад кожным "нашым", рабілі здымкі. Багата тут Навагрудскага, Пастаўскага, Ваўкавыскага, Браслаўскага, Ашмянскага і іншых заходнебеларускіх паветаў, жыхароў якіх пасля 1939 г. шмат вывозілі ў далёкую Сібір, адкуль праз колькі гадоў яны намагаліся трапіць у "ратавальную" польскую армію, каб знайсці апошні спачын у гэткай жа няблізкай італьянскай зямлі… На некаторых надмагіллях польскія нацыянальныя стужкі, на магілах жаўнераў з Львова – жывыя кветкі-гваздзікі, відаць, нядаўна была тут украінская дэлегацыя. Надпісы на надмагіллях паказваюць шырокую геаграфію ўдзельнікаў бітвы: сустракаецца і расійская Разань, і амерыканскі Нью-Джэрсі… На адным надмагіллі месцам нараджэння пазначаны "Мінск. Расія". На 1917 г. гэта, безумоўна, было праўдаю, але непрыемна чапляе гэтая пазнака…



Пахаванне за пахаваннем абыходзім увесь могільнік. Зробленыя здымкі ўсіх "нашых" надмагілляў. Яны з часам будуць апрацаваныя і дададзеныя ў віртуальную базу звестак пра беларускія пахаванні на Захадзе, што мы ствараем.

Варта адзначыць, што польскі могільнік на Монтэ Касіна – адно з найбольшых месцаў кампактнага пахавання беларусаў на чужыне. Большымі ёсць хіба што адмысловыя беларускія могільнікі, створаныя паваеннымі эмігрантамі ў Нью-Джэрсі, Кліўлендзе ці Мельбурне. Але да стварэння гэтага мемарыялу беларусы дачынення не мелі.

На эміграцыі сярод беларусаў былі ветэраны Монтэ Касіна, што згадвалі тыя падзеі, адзначалі ўгодкі. Захаваліся сціплыя сведчанні пра бітву ў мастацкай літаратуры, згадаем "Смерць і салаўі: Успаміны афіцэра-беларуса з-пад Монтэ-Касіна" Пётры Сыча. Або "Макі" Міхася Кавыля.

**Наталля Гардзіенка**

навіны

# ПА БЕЛАРУСКІХ МЯСЦІНАХ БЕЛАСТОКА

Аб'яднанне АББА на карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, зладзіла шпацыр у межах дыскусійнага клубу "Пагаворым пра".

Экскурсія прайшла па мясцінах, звязаных з беларускай гісторыя і культурай.

Гаворыць Аляксей Трубкін, аўтар праекта "Беларускі Беласток": "Першае месца, куды мы пойдзем, гэта месца, дзе знаходзіўся кааператыў выдавецкага таварыства "Сяўба". А зараз мы знаходзімся з вамі побач з касцёлам Святога Роха, у ім цікавае тое, што менавіта тут знаходзіцца на адным з вітражоў Полацкі Сафійскі сабор і Святы Язафат Кунцэвіч. Ён святы каталіцкай царквы і грэка-каталіцкай. І гэта для мяне было такім адкрыццём, цікавосткай.



Гідамі экскурсіі былі Аляксей Трубкін, які стварыў віртуальную карту Беластока з беларускімі слядамі, а таксам Лукаш Леанюк, які са "Звязам Шчыты" плануе выдаць папяровы варыянт гэтай мапы на беларускай, польскай і англійскай мовах.

Падобныя экскурсіі будуць праведзены напрыканцы чэрвеня і ў верасні.

**Радэк Дамброўскі, "Беларускае Радыё Рацыя"**

**навіны**

# БЕЛАРУСКАЯ ВЯСНА Ў ТАРОНТА – 2018



Дзіцячы фестываль "Беларуская вясна – 2018" адбыўся 5 траўня ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры ў Таронта.

Праграма фестывалю традыцыйна змяшчала дзве асноўныя часткі: дзіцячы канцэрт і абрад гукання вясны з фольк-гуртом "Яваровы людзі".

Нашыя госці 2018 года – Украінскі танцавальны калектыў "Desna" (дзіцячая група) станчылі "Гапак" і "Закарпацкі танец". Рада Зінчук і дуэт Даніэлы і Анэты Радчанка з Star School Academy пад кіраўніцтвам Маргарыты Рамко прадэманстравалі свае спеўныя таленты.

У канцэрце бралі ўдзел беларускі дзіцячы гурт "Яваровы дзеці" (мастацкі кіраўнік Віялета Кавалёва), а таксама былі і сольныя выступы Сафіі Ліўшыц, Кацярыны Музыкі, Сафіі Кот, Ульяны і Марыі Палітыкі. Танчылі на фэсце Зміцер Гайсёнак і Лаўра Кветнеўска (бальныя танцы), блізняткі Паўліна і Міхаліна Канаплянікі (стэп і джаз-танцы). Браты Жвалікоўскія гралі на кейбордзе.

Дзіцячы клуб "Размова" пад кіраўніцтвам Кацярыны Віктаровіч зладзілі майстар-клас па вырабе традыцыйных веснавых папяровых птушак, якіх затым дзеткі развешвалі на квітнеючае дрэва, імітуючы сапраўдных птушак, каб паскорыць надыход вясны.

Марыя Зібніцкая рабіла дзеткам цудоўныя размалёўкі твараў і рук. Попытам карысталіся і беларускія ўзоры.

Пасля канцэрту ўдзельнікі фэсту разам з гуртом "Яваровы людзі" вадзілі вясновыя карагоды і гулялі ў беларускія народныя гульні.

Беларуская кухня была прадстаўленая дранікамі, дзерунамі з мясам, блінцамі, у тым ліку блінцамі з мясам і тварагом, салёнымі агуркамі, печанай бульбай з хатняй каўбаскай, квашанай капусткай, бутэрбродамі з салам, аўсяным кісялём, дэсертам "Мазуркай Крохкай" і журавінавым морсам.

Спонсары атрымалі кубкі з гербам Пагоня, напоўненыя беларускімі цукеркамі, а выступоўцы значкі з Пагоняй ці бірулькі "Беларусь" ад Symbal.by.

Ірына Тоўсцік, валанцёр "Беларускай Вясны ў Таронта", зазначыла: "Гэта наш другі фэст. З годнасцю можам адзначыць, што фэст прыстойна расквітнеў у гэтым годзе, дзякуючы спонсарскай, партнёрскай і валанцёрскай падтрымцы, і сабраў шмат прыхільнікаў, удзельнікаў і гасцей. Мы ганарымся нашымі таленавітымі дзеткамі і хочам, каб у іх была пляцоўка для выступаў, каб яны маглі дакрануцца да сваёй культуры і да іншых культур, абмяняцца вопытам і традыцыямі. А таксама наш фэст – добрая нагода пазнаёміць канадцаў з беларускай культурай".

**Паводле Ірыны Тоўсцік.**

**Болей фота глядзіце на сайце zbsb.org**

# "БУРШТЫНАВАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА" НА ДНЕ ГЕРАДОТАВАГА МОРА

Журналістка і падарожніца з Падляшша Ганна Кандрацюк прэзэнтавала ў Мінску кнігу "Па Прыпяці па Нобель" – шыкоўны травелог, плён вандроўкі аўтаркі па ўкраінскім Палессі.

Цымус кнігі яшчэ і ў тым, што Ганна Кандрацюк – падляшская беларуска, роўна як і рэдактар кнігі Яўген Вапа. То бок гэта не звычайны погляд на Палессе збоку, але погляд з боку Падляшша – яшчэ аднаго ўнікальнага рэгіёна з клубком нацыянальных, рэлігійных і гістарычных перапляценняў. Так утвараецца трохкутнік Польшча-Украіна-Беларусь, у якім і знаходзіцца Палессе, край, які ляжыць на дне міфічнага Герадотавага мора.

"Гэта кніга пра Палессе, якога мы не ведаем, – распавядае Яўген Вапа. – Фарбы, колеры, смакі – гэта цэлы космас, які Ганна адчула і паклала на паперу. Вялікі сэнс кнігі ў тым, каб праз вобразы Палесся апісаць сваё "я", сваё месца ў вялікай прасторы і свеце".

Пісьменнік Уладзімір Арлоў на прэзентацыю прыйшоў з ужо прачытанай кнігай Ганны, пра што засведчыў букет закладак у томіку.

"Не люблю запазычанняў з іншых моваў, але тэрмін "травелог" мне даспадобы, – дзеліцца ўражаннямі Арлоў. – У гэтым слове чуецца вецер і пах прымятай травы… Дык вось, гэтая кніга – шыкоўны травелог: тут і лірыка, і метафізіка… Вы ведалі, што палешукі разрозніваюць 12 відаў вятроў? Гэта неймаверная архаіка і самабытнасць".

Арлоў дадае таксама некалькі прыкладаў беларуска-ўкраінскіх культурных масткоў, што прайшлі праз Палессе. Скажам, украінскі пісьменнік Аляксандр Ірванец добра ведае беларускую мову, хоць паходзіць з Роўна. Чаму? Бо ягоны бацька ў часы маленства сына ездзіў на закупы ў Лунінец і прывозіў адтуль, сярод іншага, часопіс "Вожык"!

Зрэшты, думка, што цэнтрамі прыцягнення для палешукоў ёсць Брэст, Лунінец і Пінск, а не Ковель ці Львоў, гучыць неадназоава. Весела слухаць гісторыю пра тое, як падчас выбараў ва Украіне шмат гадоў таму палешукі на пытанне журналістаў "За кого будете голосувати?" адказвалі адназначна: "За Лукашенко!". Усё проста: людзі глядзелі беларускія ТБ-каналы, трапляючы з украінскай рэальнасці ў беларускую.

"Пра Палессе можна размаўляць год, дзень і ноч, і тэма ніколі не скончыцца, – маляўніча распавядае Ганна Кандрацюк. – Калі я ехала, то думала, што ўбачу мёртвыя вёскі са старымі бабулькамі, а там вёска – гэта 2000 чалавек, школа на 500 дзяцей, бар, 5–7 рэлігійных супольнасцяў: праваслаўныя розных патрыярхатаў, іеговісты, пяцідзясятнікі, нават паганцы – сустракала і такое".

Аповед Ганны больш нагадвае мазаіку альбо пераплеценыя ў палескі каўтун валаскі. Кніга "Па Прыпяці па Нобель" – гэта той унікальны выпадак, калі пра вёску ў нас пішуць без суму і скрухі, калі вёска – гэта жыццё, дзе пераплеценыя архаіка, бізнес, грошы, мафія, чары, песні, прырода і непаўторная палеская мова.

**Алесь Кіркевіч, "Будзьма беларусамі!"**



навіны

# АРНОЛЬД МАКМІЛІН ПРЭЗЕНТАВАЎ СВАЮ КНІГУ Ў МІНСКУ

17 траўня ў кнігарні "Логвінаў" адбылася прэзентацыя новай кнігі брытанскага даследчыка беларускай літаратуры Арнольда Макміліна "Адмова ад традыцыі: кароткая беларуская проза на пачатку XXI стагоддзя".

Кніга выйшла ў выдавецтве "Логвінаў". На прэзентацыю ў Мінск прыехаў аўтар.

"Гэта невялікае выданне – апошняя частка працы аўтара, каб свет уведаў пра Беларусь не толькі ў звязку з Чарнобылем і з тым, што гэта, як выказалася Кандаліза Райс, "апошняя дыктатура ў Еўропе", але і як пра краіну з багатай культурнай гісторыяй, асабліва літаратурай", – гаворыцца ў кнізе.

Пра што казаў Арнольд Макмілін падчас прэзентацыі ў Мінску?

## Пра кнігу

"У большасці я магу апісаць толькі тое, што маю перад вачыма. Я не пішу пра кнігі, якіх не чытаў, у адрозненне ад многіх крытыкаў".

"Я думаў, што кніга такая сухая, таму я дадаў эпіграфы і цытаты з Шэкспіра, каб было весялей. Я хачу працытаваць адзін з іх. Ёсць раздзел чацвёрты "Улада, краіна, убоства". Вядомая цытата: "Няма ў кароне роздыху і сну". Я маю на ўвазе "бацьку". У тэорыі дрэнна спіцца, бо ён без каранацыі кароль. І яшчэ: "І ўсё тады збіраецца ва ўладу, // Улада ў волю, воля – у прагу есьці, // А прага есьці – ненажэрны воўк". То бок гэта пачатак раздзела, дзе трошачкі пішу пра "бацьку" і аналагічныя тэмы".




"Я пачынаю тут сэксам, бо гэта таксама важна. У "Руні" не было сэксу, таму што было зашмат. Па традыцыі пісьменнікі не пісалі пра сэкс, сатырычна пра Чарнобыль і таксама сатыру на "бацьку". То бок тут разглядаюцца нетрадыцыйныя аўтары".

"Кніга не такая дакучлівая, як папярэдняя. Нягледзячы на манаскі выгляд, там ёсць дасціпныя жарцікі".

## Што ведаюць з беларускай літаратуры ў ВялікаБрытаніі?

"Зразумела, папулярная Алексіевіч. Купала, Колас, Багдановіч больш-менш у эмігрантаў. Але хто ведае, што ведаюць іншыя людзі?"

## Пра Нобелеўскую прэмію Алексіевіч

"Яны адмовілі Быкаву, што сорамна. Адмовілі Барадуліну, бо пераклады былі жудасныя. Мне пісалі, і я рэкамендаваў яго як мог, але разумеў, што гэта немагчыма. А Васіль Быкаў мог бы атрымаць, але яны далі леваму ангельцу.

Добра, што перамагла Алексіевіч. Хоць яна піша па-расейску, але ўсім гаворыць: "Я беларуска". І кнігі яе цікавыя, журналістыка першакласная. І я рады, што яна здолела пакрыўдзіць і "бацьку", і Пуціна. Я слухаў ейную нобелеўскую прамову. Гэта быў выступ – мой найвышэйшы камплімент – нармальнага чалавека. Такіх сёння няшмат. Вельмі добра і важна, што яе кнігі вельмі хутка перакладаліся на беларускую мову".

## Пра футбол і хакей

"Калі беларуская футбольная каманда стала б чэмпіёнам свету, то палова Англіі ведала б пра Беларусь. А хакей – гэта не наш спорт. Таму трэба больш займацца футболам, калі хочаце быць вядомымі ў Англіі".

## Што трэба зрабіць беларусам, каб іх перакладалі на ангельскую мову?

"Вельмі сумна, што мы не жывём у эпоху літаратурнай культуры. Хаця ў нас людзі актыўна чытаюць кнігі. Але зашмат



пісьменнікаў – гэта адно. І зашмат тэлевізіі. Так што гэта вельмі цяжка".

## Пра Вальжыну Морт

"Вальжына Морт цудоўна прадстаўляе беларусаў у Амерыцы. Яна працавала ў прэстыжных універсітэтах. Гэта вельмі важна. Друкавала вершы і сябравала з амерыканскімі паэтамі, якія перакладаюць на ангельскую мову – гэта быў пачатак. Гэта Беларусь хаця б на інтэлектуальнай мапе ў Амерыцы.

Хаця адзін чалавек гэта мала, але тым не менш.

У папярэдняй манаграфіі "Рунь" Арнольд Макмілін даследаваў паэзію маладых творцаў пачатку XXI стагоддзя.

Раней я думаў, што гэта трагедыя для беларускай літаратуры, якая аддала вялікія таленты Амерыцы, але цяпер так не лічу. І ўсё ж не рэкамендую беларускім літаратарам ісці за Вальжынай".

## Пра тых, хто ведае беларускую мову ў Англіі

"Ангельцы вядомыя як людзі, якія ведаюць толькі ангельскую мову. У Францыі ведаюць французскую... Але Джым Дынглі цудоўна гаворыць па-беларуску, у яго беларуская жонка. Хоць яны вучылі сваіх дзяцей рускай. Дарэмна. Эмігранты – гэта людзі, якія ведаюць беларускую мову і часта дыялекты беларускай мовы".

"У апякунскай радзе Скарынаўскай бібліятэкі я адзіны не беларус, і гэта цяжка. Я часта кажу: мы ў Англіі, гаварыце па-ангельску. Я хацеў бы больш не быць сябрам рады, але разумею, што гэта святы абавязак".

**Алесь Дашчынскі, "Радыё Свабода"**

# «КУПАЛАЎСКІЯ АДРАСЫ Ў СЛАВАКІІ»

У сталічным Музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя кнігі аўтарства Міколы Труса "Купалаўскія адрасы ў Славакіі".

Прысутны на імпрэзе Надзвычайны і Паўнамоцны амбасадар Славакіі ў Беларусі Ёзеф Мігаш зазначыў: "У трыццатыя гады гэта было не так проста – дэлегацыі з Савецкага Саюза прыехаць у Чэхаславакію і навесці масты для нашых узаемадачыненняў. Таму Янка Купала – гэта не проста вялікі паэт Беларусі. Ён быў таксама знакавай фігурай у беларуска-славацкіх дачыненнях. Я хачу падзякаваць спадару Трусу за тое, што ён стварыў такую цудоўную кніжку.

Падчас цяперашняга візіту беларускай дэлегацыі ў Славакію была дасягнута дамоўленасць з тамтэйшымі ўладамі на ўсталяванне памятных шыльдаў, прысвечаных Янку Купалу.

**Максім Каўняровіч, "Беларускае Радыё Рацыя"**



кніга

# "АПАНТАНЫ БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ": НОВАЯ КНІГА РАДЗІМА ГАРЭЦКАГА

"Апантаны Бацькаўшчынай: Жыццёвы меланж-2" – так называецца новая кніга Радзіма Гарэцкага, акадэміка НАН Беларусі, слыннага беларускага геолага, грамадскага дзеяча, сябра Рады "ЗБС "Бацькаўшчына".




Што азначае слова "меланж", аўтар тлумачыць у прадмове – у геалогіі "меланж" абазначае цела, складзенае з разнастайных парод, якое мае адмысловую структуру і спалучае самыя розныя колеры. А "жыццёвы меланж" – гэта адлюстраванне ўсяго, што было важным у жыцці, што знайшло свой адбітак у нашай памяці,




жанр, блізкі да вытрымак з дзённікавых запісаў, якія тычацца розных здарэнняў, праяў, эпізодаў штодзённага жыцця і выкліканых імі пачуццяў, думак.

Пяцісотстаронкавы том, выдадзены з дапамогай ЗБС "Бацькаўшчына", стаў своеасаблівым адказам Радзіма Гарэцкага на просьбу чытачоў папярэдняй кнігі ("Жыццёвы меланж", 2013) працягваць ствараць нарысы, эсэ, лірычныя замалёўкі і публіцыстычныя артыкулы. Новая кніга ўтрымлівае актуальныя тэксты, напісаныя з 2013 года і да сёння (адзін з апошніх датаваны лютым 2018 года). Частка тэкстаў друкавалася ў беластоцкім часопісе "Тэрмапілы", некаторыя – у беларускіх газетах і зборніках, але шмат якія з прапанаваных твораў друкуюцца ўпершыню.

У кнізе таксама змешчаныя фотаздымкі, якія ілюструюць апісаныя падзеі і знаёмяць чытачоў з іх удзельнікамі: Заір Азгур, Мікола Аўрамчык, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў, Барыс Пятровіч, Алеся Кіпель, Хведар Нюнька, Уладзімір Колас ды многія іншыя.

Гэтая кніга будзе цікавая самаму шырокаму колу чытачоў. Спяшайцеся набыць, наклад выдання невялікі!

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБМ "Бацькаўшчына"**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# "БУДЗЬМА!" ВЫДАЛА НАБОР ПАШТОВАК "НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ"

Больш беларускіх словаў, новыя малюнкі – набор паштовак ужо ў продажы! Камплект складаецца з найбольш папулярных паштовак, на якія кампанія атрымала найбольш ухвальных адозваў ад чытачоў. А новыя паштоўкі будуць распавядаць пра эмоцыі і з чаго складаецца аўтамабіль.

Малюнкі для паштовак, як і раней, стварыла Дар'я Мандзік, а дызайн – кіраўнік студыі "Адліга" Анатоль Лазар.

Шукайце новы набор паштовак "Не маўчы па-беларуску!" ў мінскіх кнігарнях, ды памятайце, што зашмат словаў пабеларуску не бывае!

У рэгіёнах:

Бабруйск: "Крыніца ведаў" (М. Горкага, 31).

Віцебск: "Светач" (Кірава, 10).

Гародня: "Цудоўня" (Вялікая Траецкая, 16)




## Беларускі каляндар памятных дат на чэрвень 2018 года

1 чэрвеня – 125 гадоў таму, у 1893-м, памёр Аляксандр Валіцкі, выдавец, музычны крытык, спявак, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

2 чэрвеня – 155 гадоў таму, у 1863-м, расстраляны Міхаіл Цюндзявіцкі, вайсковец, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

4 чэрвеня – 70 гадоў таму, у 1948-м, у Канстанцы (Бадэн-Вюртэнберг, Нямеччына) пачаўся Першы сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы на эміграцыі, на якім гэтая царква была адноўлена.

5 чэрвеня – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Юрка Лістапад, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

5 чэрвеня – 15 гадоў таму, у 2003-м, памёр Уладзімір Емяльянчык, гісторык, паэт.

8 чэрвеня – 60 гадоў таму, у 1958-м, у Беластоку заснавана беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа".

9 чэрвеня – 290 гадоў таму, у 1728-м, нарадзіўся Казімір Рагоўскі, тэолаг, філосаф.

9 чэрвеня – 155 гадоў таму, у 1863-м, павешаны Баляслаў Калышка, адзін з кіраўнікоў паўстання.

10 чэрвеня – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Язэп Гапановіч, нацыянальны дзеяч.

10 чэрвеня – 95 гадоў таму, у 1923-м, памёр Міхал Федароўскі, фальклярыст, этнограф, археолаг.

11 чэрвеня – 40 гадоў таму, у 1978-м, памёр Янка Тарасевіч, рэлігійны дзеяч эміграцыі ў Канадзе і ЗША.

14 чэрвеня – 115 гадоў таму, у 1903-м, памёр Ян Карловіч, лінгвіст, этнограф, фальклярыст, музыказнавец.

16 чэрвеня – 90 гадоў таму, у 1928-м, памёр Эдвард Вайніловіч, палітычны дзеяч.

17 чэрвеня – 170 гадоў таму, у 1848-м, памёр Максіміліян Рыла, філосаф, археолаг, каталіцкі місіянер.

17 чэрвеня – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Аркадзь Смоліч, дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі, вучоны ў галіне эканомікі і сельскай гаспадаркі, географ.

17 чэрвеня – 60 гадоў таму, у 1958-м, памёр Уладзімір Пігулеўскі, пісьменнік.

18 чэрвеня – 155 гадоў таму, у 1863-м, расстраляны Уладзімір Корсак, Міхаіл і Ян Манцэвічы, удзельнікі паўстання 1863–1864 гг.

22 чэрвеня – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Аляксандр Цвікевіч, палітычны дзеяч, гісторык, філосаф.

22 чэрвеня – 15 гадоў таму, у 2003-м, памёр Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі.

27 чэрвеня – 85 гадоў таму, у 1933-м, памёр Міхась Явар (сапр. Карась), паэт.

29 чэрвеня – 105 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Часлаў Будзька, грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

29 чэрвеня – 60 гадоў таму, у 1958-м, памёр Фабіян Ярэміч, грамадска-культурны дзеяч.

30 чэрвеня – 25 гадоў таму, у 1993-м, памёр Міхась Мельнікаў, краязнавец.

**Беларусы ў свеце**
No 5 (192), май 2018
Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі. Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27